ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE ¢ 50

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431. Tel.: (212) 380-2036

Год XXIII, № 197 Нью Ёрк September — Верасень New York Vol. XXIII № 197

## СЕЛЁТНІЯ КУПАЛАВЫ ЎГОДКІ Й "СЬВЯТА ПАЭЗІІ"

Сьледам за 90-мі ўгодкамі ад нараджэньня Янкі Купалы, што гэтак шырака былі адсьвяткаваны летась у ліпені, сёлета, хоць і ў вузейшым маштабе, былі адзначаныя й наступныя 91-я ягоныя ўгодкі. Былі яны адзначаныя адмысловымі артыкуламі ўва ўсім пэрыядычным друку БССР, а галоўна — правядзеньнем Сьвята беларускае паэзіі на радзіме Купалы ў Вязыньцы. Гэтым была ўстаноўленая традыцыя адзначаньня кажнага году Купалавых угодкаў Сьвятам паэзіі, прысьвечаным найвялікшаму беларускаму паэту. Недарма газэта „Літаратура і Мастацтва" напярэдадні Купалавых угодкаў за 6 ліпеня сёлета ў рэдакцыйным паведамленьні пісала: **„Сьвята паэзіі... Яно стала ў нас добрай традыцыяй. Няхай-жа гэтая традыцыя будзе трывалай, няхай пераходзіць з пакаленьня ў пакаленьне любоў да роднага слова, роднай песьні!"**

Каб належна ўявіць сабе вялікае значэньне ўстанаўленьня штогадовага Сьвята беларускай паэзіі, неабходна адзначыць, зь якой наважанасьцяй стараліся на працягу даўгіх год беларускія паэты і ўся літаратурная грамадзкасьць устанаўленьня гэтага сьвята і як доўга гэтыя іхныя стараньні былі дарэмныя. Ня будзем тут паўтараць усяе гісторыі сыстэматычных захадаў беларускай літаратурнай грамадзкасьці, каб за прыкладам іншых саюзных рэспублікаў, перш-наперш РСФСР і Украіны было й на Беларусі ўстаноўленае штогадовае Сьвята паэзіі. Прыгадаем адно самы апошні этап гэтых стараньняў. Гэтак роўна за год да 90-х угодкаў ад нараджэньня Янкі Купалы — у ліпені 1971 году зьявіліся былі ў газэце „Літаратура і Мастацтва" тры артыкулы на гэтую тэму. Артыкул Варлена Бечыка й Міколы Гіля „Ад „Дня паэзіі" — да „Сьвята паэзіі" і два артыкулы Міколы Ермаловіча й А. Альфяровіча пад супольным загалоўкам „Паэтычнаму сьвяту — быць!" Сьледам за Бечыкам і Гілём гэтыя аўтары ўважалі за найболыш адпаведны час для Сьвята беларускай паэзіі канец чырвеня — пачатак ліпеня, калі спаўняцца ўгодкі ад нараджэньня Янкі Купалы і прыпадае традыцыйнае народнае сьвята Купальле, асабліва паэтычнае сваёй абраднасьцяй. Усе згаданыя аўтары канкрэтна прапанавалі, каб першае ў Беларусі Сьвята паэзіі адбылося ў наступным 1972 годзе й было спалучанае зь 90-гадовым юбілеем Янкі Купалы.

Гэтак яно й сталася. У праграме леташняга сьвяткаваньня 90-х Купалавых угодкаў было праведзенае ў Вязыньцы й першае беларускае Сьвята паэзіі. Пасьля гэтага беларускія паэты й пісьменьнікі рабілі ўсё магчымае, каб запачаткаванае на 90-я Купалавы ўгодкі Сьвята беларускай паэзіі сталася трывалай традыцыяй і паўтаралася кажнага году. Гэтак на прапанову паэты Анатоля Грачанікава, выказаную ў ягоным дакладзе на пісьменьніцкім пленуме ў сакавіку сёлета, было канчаткова ўзаконена праводзіць Сьвята паэзіі кажнага году. І вось сёлета на 91-я ўгодкі ад нараджэньня Янкі Купалы 7 ліпеня адбылося ў Вязыньцы ўжо другое Сьвята паэзіі. У гэты-ж дзень мае яно адбывацца й кажнага наступнага году.

Значэньне й роля Сьвята паэзіі ў беларускім літаратурным жыцьці нязвычайна вялікія. Гэта галоўна дзякуючы тэй акалічнасьці, што сьвята гэтае адбываецца ў гонар найвялікшага беларускага паэты й ідэйнага правадыра беларускага народу Янкі Купалы. У сувязі з гэтым яно запладняе й сучасную беларускую паэзію тымі высокімі нацыянальнымі й агульналюдзкімі ідэямі, якія выказваў у сваёй творчасьці Янка Купала. Гэтую арганічную ідэйную сувязь сучасных паэтаў з паэтычнай спадчынай Янкі Купалы й непахісную вернасьць гэтай спадчыне праілюструем некаторымі цытатамі з артыкулаў і вершаў гэтых паэтаў, што прагучэлі на сёлетнім Сьвяце паэзіі.

Гэтак старэйшы беларускі паэта Станіслаў Шушкевіч, што за сталіншчынай каля 20-ёх год адпакутваў у высылцы, на сёлетнім Сьвяце паэзіі ў газэце „Чырвоная зьмена" пісаў: **„Праменьні вялікіх дум і надзей зьзялі і зьзяюць у няўміручых творах Янкі Купалы. Ён быў і застаецца сонцам нашай паэзіі. Стагодзьдзі не сатруць гэх ідэй, якія ўкладзены ў яго цудоўную творчасьць..."** Больш глыбака асэнсаваць жыцьцятворную ролю Купалавае паэзіі для сучасных і будучых пакаленьняў, як гэта зрабіў Станіслаў Шушкевіч, нельга.

А вось натхненныя словы пра Янку Купалу выдатнага сучаснага паэты й старшыні Саюзу пісьменьнікаў Беларусі Максіма Танка:

*Яго сьцежка-дарога*
*перавалаў ня знала,*
*А нястомна ўздымалася*
*ўгору і ўгору.*
*Да надзеі і песьні,*
*да сьвітаньня і сонца...*
*Толькі што-ж гэта сьцежка*
*абрываецца раптам*
*п'едэсталу гранітам?*
*Але ён — далей крочыць,*
*нават і не заўважыў,*
*што ён пераступіў праз абрыў.*
*У бясьсьмерце.*

Іншы сучасны паэта Пімен Панчанка гэтак асэнсаваў і ўславіў Янку Купалу ў сваім вершы, прачытаным на сёлетнім Сьвяце паэзіі:

*З працы пачынаецца Купала,*
*Зь песьні, што яднала ўсіх людзей,*
*З казак, дзе крыві і сьлёз хапала,*
*З калыханкі сонца і надзей.*

Малады беларускі паэта Леў Мароз, што пачынаў сваю паэтычную дзейнасьць на рускай мове, але хутка адчуў сваю беларускасьць і перайшоў вылучна на беларускую мову, гэтак уяўляе сабе ролю Купалавае паэзіі ў жыцьці беларускага народу:

*Купала, Купала —*
*У маленстве гучала*
*І песьняй у лёс увайшло.*
*Нямала, нямала*
*Людзей саграбала*
*Купалаўскай песьні цяпло.*
*Народныя беды*
*Ён добра уведаў,*
*І песьні Купалаўскай гнеў*
*У сьвет міраедаў,*
*У сьвет дармаедаў*
*Атрутнай стралою ляцеў.*
*Узімку і ўлетку*
*Ён папараць-кветку —*
*Народнае шчасьце шукаў.*

Падобна прагучэлі ў гонар Купалы на Сьвяце паэзіі вершы й шмат якіх іншых беларускіх паэтаў, што вызналі Купалу сваім нацыянальным і духовым правадыром. Яны пацьвердзілі, што магутнае Купалава слова дае ім найбольшае натхненьне для іхнае паэтычнае творчасьці й запладняе іх кроўнай любасьцяй і адданасьцяй роднай Беларусі.

Праўда, сярод гэтых узвышаных акордаў ідэйнай сугучнасьці з паэзіяй Купалы не абыйшлося й без хвальшывых дысанансаў. Гэтак, прыкладам, згаданы малады паэта Леў Мароз, побач з глыбокім адчуваньнем свайго собскага й свайго народу кроўнага сваяцтва з Купалавай ідэяй, у цытаваны свой верш уставіў і гэткія радкі:

*Рэспубліка стала*
*Такой, як Купала*
*У марах і песьнях жадаў...*

У запраўднасьці-ж, Янка Купала, як пацьвярджае ўся ягоная, пісаная яшчэ не пад прымусам, паэзія, у марах і песьнях жадаў зусім іншае будучыні свайму краю й народу. Ёсьць усе асновы ўважаць, што гэтыя словы Льва Мароза, як і падобныя ім словы некаторых іншых паэтаў, гэта няшчырая даніна часу й абставінам, каб, за цану гэтае даніны, магчы сказаць і ўсё сваё шчырае й запаветнае. Наагул-жа Сьвята паэзіі, зьвязанае з Купалавымі ўгодкамі, гэта адзін із спосабаў працягваньня й маніфэставаньня Купалавых ідэйных запаветаў сучаснымі беларускімі паэтамі. У гэтым галоўнае значэньне Сьвята беларускае паэзіі.

Апрача Сьвята паэзіі на 90-я ўгодкі Янкі Купалы, летась было праведзенае не менш урачыста гэткае-ж Сьвята паэзіі на 90-я ўгодкі ад нараджэньня Якуба Коласа ў роднай ягонай Мікалаеўшчыне. Дзеля таго, што Якуб Колас ставіцца нараўні зь Янкам Купалам, цалкам лягічна й мэтазгодна, каб і на кажныя ўгодкі ад ягонага нараджэньня праводзілася 3 лістапада таксама штогоду гэткае-ж Сьвята паэзіі. Прыкладам, у Расеі праводзіцца штогоду не адно сьвята паэзіі, а некалькі. У пэрыядычным савецкім друку дасюль ня было згадкі, ці Сьвята паэзіі на Коласавы ўгодкі станецца таксама трывалай традыцыяй. Трэба, аднак, думаць, што беларуская літаратурная грамадзкасьць зробіць усё магчымае, каб Сьвята паэзіі праводзілася кажнага году й на Коласавы ўгодкі.

**Ст. Станкевіч**

## У НАДЗЕІ НА ЗАХОДНІЯ РАДЫЯСТАНЦЫІ

У савецкім афіцыйным друку ў канцы жнівеня-пачатку верасьня сёлета вялася кампанія супраць іншамыснага савецкага акадэміка Андрэя Сахарава. У вабарону Сахарава выступіў іншы выдатны вучоны, прафэсар матэматыкі Маскоўскага ўнівэрсытэту Ігар Шафарэвіч. Шафарэвіч сваю заяву ў падтрыманьне Сахарава перадаў заходнім карэспандэнтам (як падала газэта „Нью Ёрк Таймс" за 5. IX. 73) „у выразнай надзеі, што замежныя радыястанцыі перададуць ейны зьмест савецкаму грамадзтву". Адной з гэткіх радыястанцыяў, што перадала заяву Шафарэвіча, была радыястанцыя „Свабода", дзейнасьць якое часта атакуецца й партыйным друкам падсавецкае Беларусі."

### ПЯЦЬ ЗАЛАТЫХ МЭДАЛЯЎ ВОЛЬГІ КОРБУТ

Беларуская гімнастка Вольга Корбут здабыла пяць з шасьцёх залатых мэдаляў на міжнародных Унівэрсытэцкіх Спартовых Гульнях у Маскве ў другой палавіне жнівеня сёлета. Пра гэта шырака падавалася ў міжнародным друку. Газэта „Нью Ёрк Таймс" двойчы ў часе гульняў зьмяшчала здымак В. Корбут (17-га й 20-га жнівеня).

### МАРКІ З НАГОДЫ ТЫДНЯ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ

Каардынацыйны Камітэт для адзначэньня Тыдня Паняволеных Народаў у Чыкага, у склад якога ўваходзяць таксама Беларусы, выдаў з нагоды сёлетніх 15-х угодкаў Тыдня дзьве камэмарацыйныя маркі ў чырвона-сінім колеры. На адной зь іх напісана (паангельску) „Паняволеныя Народы" зь пералікам 21 паняволенага краю, у тым ліку й Беларусі. На другой марцы напіс: „У вадзначэньне 15-х угодкаў Праклямацыі Паняволеных Народаў. Кангрэс Задзіночаных Штатаў. Закон 86-90". Пэрфараваныя лісты зьмяшчаюць кожны 32 маркі.

## ЗЬНЯВЕЧАНАЯ МОВА

У кнізе Ф. Янкоўскага „Пытаньні культуры мовы", выданьня 1961 г., гаворыцца: „Істотнай адзнакай літаратурнай мовы зьяўляецца наяўнасьць у ёй агульнапрынятых нормаў, інакш кажучы, літаратурная мова — гэта нармалізаваная агульнанародная мова".

Аўтар кнігі тэрмінам „агульнанародная мова" акрэсьлівае ўсе дыялекты аднаго народу, у дадзеным выпадку, беларускага. Трэба адно нармалізаваць, уклясьці народную мову ў пэўныя нормы, каб яна сталася літаратурнай. Як-жа цяпер на практыцы адбываецца гэтая нармалізацыя?

Як мы ведаем, да 1928 году разьвіцьцё беларускае мовы йшло шпаркім тэмпам, адылі пачало спыняцца пад ціскам кіраўнікоў камуністычнай партыі, а ў 1933 годзе русыфікацыйная рэформа беларускага правапісу канчальна прыпыніла працэс нацыянальнага ўздыму.

У дваццатых гадох нармалізацыя народнай мовы праходзіла большменш узгоднена, бяручы ў васнову тагачасны правапіс Язэпа Лёсіка, хоць былі і невялікія разыходжаньні ў напісаньні чужаземных слоў. Некаторыя літаратары захоўвалі ненаціскное „о" у словах неславянскага паходжаньня (паэта, арыентацыя, модэрны, комэнтар, палітэхніка і інш.). Але ў васноўным усе трымаліся фанэтычнага правапісу: як чуецца, гэтак і пішацца.

Уніфікаваны правапіс 1933 году зусім разбурыў гэтую фанэтычную аснову, найбольш характэрную для беларускай мовы. Прымусова накінулі недарэчнае правіла: літара „о" захоўваецца ў пачатку імёнаў і геаграфічных назоваў: Ока, Орол, Онегін, Оляхновіч, Олег і г. д. Пры гэтым была заўвага, што прозьвішчы і імёны Беларусаў трэба пісаць праз „а": Аляхновіч, Арэшка, Алег. Такім чынам, пры напісаньні паўставала пытаньне аб нацыянальным паходжаньні тэй ці іншай асобы. Ці-ж гэта не бязглуздзіца? Апрача таго, узаконілі гэткае правіла — чужыя словы з канчаткам „о" трэба пакідаць бязь зьменаў: Чыкаго, эмбарго, сальдо, танго. І яшчэ адзін казус: „о" застаецца ў сярэдзіне слова палітычнага характару. Прыкладам, — комунізм, соцыялізм, большэвік, рэволюцыя, совет, пролетарыят. Трымаючыся гэтага правіла, пачалі пісаць, наўсуперак беларускай фанэтыцы, наагул усе расейскія і чужыя імёны.

Невядома да чаго дайшло-б, каб не кароткі час праводжанай дэсталінізацыі. Пісьменьнікі і культурныя дзеячы Беларусі пачалі ў той час выступаць у друку ў вабарону мовы. Сталінская палітыка русыфікацыі крыху прыпынілася і ў новым правапісе зрабілі невялікую зьмену. Цяпер пакінуты стары прынцып: усе словы бяз вынятку падлягаюць аканьню, „о" — толькі пад націскам. Але, на вялікі жаль, рэгабілітацыя лёсікавага правапісу пакуль што не прайшла.

Колькі разоў пісалася ў беларускім цэнтральным друку пра тое, што ў дзяржаўных тэатрах і на радыё акторы й дыктары вымаўляюць словы няправільна, не пабеларуску, зусім цьвёрда. Напрыклад: свет, снег, змена, з'ява, з'езд. Чымжа тлумачыцца гэткае вымаўленьне? Прычына хаваецца ў тым, што новы правапіс адхіліўся ад прынцыпу беларускай фанэтыкі і пабудаваны на ўзор расейскага. А ўжо калі гэтак пішацца бязь мяккага знаку пасьля зычнай перад мяккай галоснай, дык і вымаўляецца інакш, не пабеларуску.

Рэформа правапісу 1933 году асабліва нарабіла вялікай шкоды ў напісаньні чужаземных слоў. Ізноўтакі тут усё падагнана пад расейскі правапіс. Паводля новага правапісу ліцінскае „е", якое заўсёды вымаўляецца цьвёрда, пішацца не праз „э", як мае быць, а гэтак-жа, як і парасейску: газета, метад, Мексіка, камедыя, педагог, спектакль, сенсацыя. І ня дзіва, што Беларус пры гэткім напісаньні будзе вымаўляць „мяханіка", „пяйзаж", „пярыяд".

Нядобра і непрактычна выглядае гэта і ў напісаньні, калі карыстацца лацінскім альфабэтам. Трэба пісаць яшчэ адну літару „і" перад „е". Але русыфікатары, наагул варожа ставячыся да лацінкі, зусім зьнялі яе з ужытку. Адным словам, пішы як Расейцы. І толькі кірыліцай, і гэтак-жа як і яны, вымаўляй чужыя словы.

Але калі мы возьмем беларуска-расейскі слоўнік, выданьня 1962 г., дык пабачым, што ягоныя ўкладальнікі не маглі ўсе словы падрадкаваць гэтым неўласьцівым для Беларусаў правілам. Найбольш укаранелыя ў народзе словы пакінуты ў слоўніку бязь зьменаў: вэлюм, імпэт, мэбля, пэндзаль, сэнс, фэст, вэксаль. А чаму слова „газэта", вельмі пашыранае ў народзе, трэба пісаць па расейску? Слоўнік падае „газета". Няма патрэбы даводзіць беспадстаўную і шкодную рэформу сталінскага часу. Усё гэта зразумелае.

Асабліва відавочную шкоду можна бачыць на ўведзеныя правілы цьвёрдага „л" у чужаземных словах. Тут ужо мусіш абавязкова скіраваць увагу на расейскі правапіс. Пішы „праклямацыя", „рэклама", „лозунг", „Лондан", „Луара", „Галандыя", „Ірландыя", але „Фінляндыя" (бо гэтак у Расейцаў!); „эскалатар", але „ізалятар", „рэгулятар"; „бухгалтар", але „бюстгальтэр". І гэтак скрозь мусіш ісьці за прыкладам Расейцаў.

Невядома, ці з вымогаў нашых моваведаў, ці то зь іншых меркаваньняў пакінулі некалькі слоў у беларускім вымаўленьні.

У беларуска-расейскім слоўніку (1962 г.) зазначаныя зь мяккім „л" гэткія словы заходня-эўрапейскага паходжаньня, як напрыклад, баль, галёш, гальштук, калёквіум, крышталь, лямпа, пляц, флёкс, хлёрка, шкарлятына. Аднак слоўнік падае слова „клас", у той час, як „кляса" больш пашыранае ў народзе, чымся „калёквіум". У народнай гаворцы можна і сяньня пачуць: „у мяне рэч першай клясы", „сын перайшоў у другую клясу". Беларускія пісьменьнікі таксама перад рэформай правапісу пісалі „кляса", а ня „клас". Аб гэтым красамоўна гавораць і перавыдадзеныя кнігі рэгабілітаваных пісьменьнікаў. Напрыклад, у вершах Міхася Чарота ў новым выданьні з увагі на рыфму і рытм слова „кляса" засталося, але рэдактары падмянілі ў гэтым слове літару „я" на „а". Атрымаўся гібрыд: „рабочая класа". У народнай мове такога не пачуеш! Ці ня лепш было-б пакінуць гэтак, як пісаў аўтар? Дарэчы, чужаземныя словы зь мяккім „л", якія трапляюць у беларускую літаратуру, робяць нашу ры ня могуць іх зьліквідаваць.

Сучасная мова на Беларусі засьмечаная русыцызмамі, зьнявечаная прымусова накінутым правапісам. Падсавецкія беларускія пісьменьнікі і культурныя дзеячы добра бачаць гэтыя шкодныя хібы, але ўва ўмовах камуністычнае дыктатуры ня могуць іх хутка зьліквідаваць.

Змаганьне за чысьціню мовы не павінна спыніцца. Першы этап упадаркаваньня правапісу — беларускае аканьне — ужо даўно пройдзены. Застаецца далейшае змаганьне за паварот да правільных нацыянальных пазыцыяў, за поўную рэгабілітацыю правапісу Язэпа Лёсіка і за запраўдную нармалізацыю народнай мовы ў ейных чыстых натуральных формах.

**Рыгор Крушына**

### ПРА ВІЛЬНЮ

У кнізе беларускага савецкага гісторыка Міколы Ўлашчыка „Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии" (Нарысы з археаграфіі й крыніцаведы гісторыі Беларусі), выдадзенай сёлета ў маскоўскім выдавецтве „Навука", пра Вільню напісана (б. 10):

„На працягу 400 год гэтае места было сталіцай ня толькі для Лятувісаў, але й для Беларусаў. Гэтыя традыцыі нагэтулькі моцныя, што калі ў 1905 годзе было дазволена друкаваць кнігі й газэты ў беларускай мове, дык іх галоўным чынам выдавалі ў Вільні. Калі наагул выключыць зь беларускіх крыніцаў усё, што датычыцца да Вільні, дык давядзецца прамоўчаць дзейнасьць Францішка Скарыны, Мамонічаў, праваслаўнага брацтва, самага шматлюднага й багатага ў Літоўскай дзяржаве (сябрамі якога былі блізу вылучна Беларусы)".

### КЛОПАТЫ ЗЬ БЕЛАРУСАМІ Ў ПОЛЬШЧЫ

Як паведамляе польская парыская „Культура" (1973, Нр. 5, б. 50), адзін з вышэйшых прадстаўнікоў Каталіцкае Царквы Польшчы неафіцыйна ў Рыме даў гэткую інфармацыю: „Не каталіцкія веравызнаньні маюць вельмі абмежаную аўтаномію. Некаторыя зь іх гэта ў сапраўднасьці царквы дзяржаўныя. Гэта асабліва датычыцца да Праваслаўнае Аўтакефальнае Царквы ў Польскай Народнай Рэспубліцы. Царква Каталіцкая таму ня мае магчымасьці зьвязацца й зь беларускай супольнасьцяй, якая, калі ідзе пра нацыянальнае ды культурнае самавызначэньне, вельмі актыўная, што, між іншым, стварае ўрадавым дзейнікам некаторы клопат".

**BIELARUS**

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.

Subscription $ 6.00 yearly.

**„БЕЛАРУС"** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 6 дал. на год.
Незамоўленыя рукапісы назад не зьвяртаюцца.

# МІХАЛ ФЕДАРОЎСКІ

**1. 9. 1853 — 10. 6. 1923**

**АД РЭДАКЦЫІ: 1-га верасьня сёлета споўніліся 120-я ўгодкі ад нараджэньня, а 10-га чырвеня 50-я ўгодкі ад сьмерці выдатнага беларускага этнографа й фальклярыстага Міхала Федароўскага. Падвойныя ўгодкі вельмі заслужанага для беларускай навукі гэтага чалавека адзначаем ніжэй надрукаваным аглядам кнігі беларускага падсавецкага вучонага Янкі Саламевіча „Міхал Федароўскі".**

***

Навуковая літаратура пра беларускіх выдатных культурных і навуковых працаўнікоў ды іхную дзейнасьць у нас яшчэ даволі ўбогая. Праўда, выдавецтва „Навука і тэхніка" пачало ад 1965 году выдаваць сьціпленькія, дарэчы даволі неахайныя з тэхнічнага боку, кніжачкі пра некаторых дзеячоў беларускай навукі й культуры, як Юльяна Пшыркова пра Адама Багдановіча, Бандарчыка й Фядосіка пра Аляксандра Сяржпутоўскага або Арсеня Ліса пра Міколу Шчакаціхіна, Браніслава Тарашкевіча й Пятра Сяргіевіча ды некаторыя іншыя. Але ўсе яны, напісаныя на папулярным узроўні, даюць вельмі агульнае ўяўленьне пра дзейнасьць гэтых людзей.

На фоне гэтага ўбоства асабліва карысна вырозьніваецца грунтоўная навуковая праца Янкі Саламевіча „Міхал Федароўскі", што выйшла летась у выдавецтве „Вышэйшая школа". Ды вырозьніваецца яна з кажнага гледзішча: з гледзішча на паўніню ахапленьня тэмы й выкарыстанага матарыялу, грунтоўнасьць і высокі навуковы ўзровень дасьледваньня, а таксама з гледзішча на сучасныя мэтадалягічныя патрабаваньні дасьледваньня. Паважная, старанна й густоўна выдадзеная, кніга Янкі Саламевіча „Міхал Федароўскі", што абыймае каля 380 старонак друку, ці ня першае яшчэ ў нашай беларусаведзе дасьледваньне пра дзейнасьць аднаго з найвыдатнейшых нашых фальклярыстых, што вызначаецца грунтоўнасьцяй і высокім навуковым узроўнем. У „Ўступе" да гэтае кнігі Саламевіч інфармуе, што, **„акрамя вывучэньня прац самога Федароўскага і літаратуры пра яго, давялося абсьледаваць 14 архіваў і рукапісных аддзелаў бібліятэк Польшчы і Савецкага Саюзу".**

Паводля нацыянальнасьці Паляк і народжаны ў Варшаве ў 1853 годзе, Міхал Федароўскі ад 1877 й да 1904 году жыў у заходняй частцы Беларусі цэлых 27 гадоў, пазнаў і палюбіў беларускае сялянства, навучыўся беларускай мовы, увесь гэты час і тры гады пасьля свайго пераезду ў Варшаву сыстэматычна займаўся запісамі, вывучэньнем і апрацоўваньнем беларускага фальклёру. Тры першыя тамы ягонай фундамэнтальнай працы „Люд бяларускі" выйшлі пры жыцьці аўтара, том 4-ы ўжо па ягонай сьмерці ў 1935 годзе, тамы 5-ы й 6-ы ў 1958 і 1960, а том 7-мы ў 1969 годзе. Самжа Федароўскі, як інфармуе Саламевіч, плянаваў выдаць свае запісы беларускага фальклёру ў 20-ёх тамох. Вялікая іхная частка знаходзіцца ў розных архівах Польшчы, чакаючы на сваё выданьне.

Янка Саламевіч асобна разглядае запісы й публікацыі Федароўскага беларускай народнай прозы, асобна запісы парэміяграфічных матарыялаў і асобна народных песьняў, прысьвячаючы кажнаму з гэтых жанраў асобныя галоўныя разьдзелы кнігі. Гэтак у трох першых тамох „Люду беларускага" надрукаваў Федароўскі каля 13 тысячаў казак, паданьняў і легендаў. Да Федароўскага, як сьцьвярджае Саламевіч, на тэрыторыі Заходняй Беларусі было запісана й надрукавана трохі больш за 200 казак, паданьняў і легендаў. Саламевіч устанавіў, што зборнікі Федароўскага прынесьлі дасьледчыкам фальклёру і шмат гэткіх казачных сюжэтаў, якія або былі запісаныя вельмі абмежавана наагул на ўсім прасторы славяншчыны, або зусім ня сустракаліся ня толькі ў іншых народаў, апрача беларускага, але ня былі зафіксаваныя на Беларусі. Тут Федароўскі, паводля літаральнага выражэньня Саламевіча, **„быў першаадкрывальнікам".**

У разьдзеле „Парэміяграфічная спадчына" Саламевіч разглядае фразэалягізмы, прыказкі й устойлівыя народныя выслоўі, запісаныя Федароўскім, якія маюць навуковую каштоўнасьць ня толькі для фальклярыстыкі, але й мовазнаўцы. У архівах засталося 28 тысячаў картак з парэміяграфічнымі запісамі Федароўскага, зь якіх адных толькі каля 10-ці тысячаў прыказкаў увайшло ў 4-ы том „Люду беларускага". Саламевіч цьвердзіць, што **гэта дасяньня найбольшы зборнік беларускіх прыказкаў.** Апрача гэтага, Федароўскі супаставіў із сваімі запісамі 26 розных парэміяграфічных выданьняў прыказкаў расейскіх і украінскіх, многія зь якіх мелі дзясяткі тысячаў прыказкаў. З гэтага Саламевіч робіць выснову, што **„да сяньняшняга дня ні адзін беларускі парэміёграф не адважыўся ўзяцца за падобнае".**

Песенныя запісы Федароўскага былі надрукаваныя толькі ў 1958 і 1960 гадох у 5-м і 6-м тамох „Люду беларускага". Федароўскі запісаў больш за 5 тысячаў песенных тэкстаў. Да 1413 песенных тэкстаў дадаў ён і іхныя мэлёдыі, што называе Саламевіч таксама **„зьявай унікальнай у беларускай музычнай фальклярыстыцы".** Да Федароўскага гэткай колькасьці мэлёдыяў не запісаў ніхто. Прыкладам, Шэйн надрукаваў толькі 30 мэлёдыяў, Раманаў — 53, Радчанка — 210. Моцна захоплены беларускімі песеннымі запісамі Федароўскага й іхнай якасьцяй, Саламевіч дае ім гэткую ацэну: **„Беларускія народныя песьні, сабраныя М. Федароўскім, неацэнны скарб, які непамерна ўзбагаціў беларускую нацыянальную культуру. Па яго зборах мы цяпер маем магчымасьць пераканацца ў глыбокай паэтычнасьці нашай народнай песьні, вывучаць душу народу, зразумець яго псыхалёгію і этыку, глыбей пранікнуць у таямніцу беларускага нацыянальнага характару, прачытаць адвечныя думы і спадзяваньні народу!"**

Асобны разьдзел сваёй працы прысьвяціў Саламевіч прынцыпам запісаў і публікацыі Федароўскім беларускіх народных твораў. Саламевіч устанавіў, што галоўным практычным прынцыпам, якога трымаўся Федароўскі ў сваіх запісах і публікацыях, быў уласнаручны ягоны запіс з вуснаў народу з захаваньнем усіх мясцовых дыялектных асаблівасьцяў мовы. І хоць ягоная фанэтычная транскрыпцыя народных тэкстаў незаўсёды дасканалая, а сяньня і ўстарэлая ўжо, у тым часе, калі ягоныя запісы рабіліся, была яна найлепшай сярод фанэтычнай транскрыпцыі ягоных сучасьнікаў. Таксама добра справіўся Федароўскі з уведзенай ім клясыфікацыяй беларускіх народных песьняў. Як ведама, яшчэ да апошняга часу ні савецкімі, ні заходнімі фальклярыстамі не ўстаноўленыя яшчэ цьвёрдыя прынцыпы клясыфікацыі народных песьняў. Тымчасам, як сьцьвярджае Саламевіч, **„выдаўцы ў васноўным захавалі тую клясыфікацыю"** ў выданьні 5-га й 6-га тамоў „Люду беларускага" ў 1958 і 1960 гадох, **„плян якой склаў сам Федароўскі".**

Наапошку Саламевіч выявіў у сваёй працы і палітычныя, калі так сказаць, пагляды Федароўскага на беларускі народ і ягонае месца ў сям'і славянскіх народаў. Саламевіч піша: **„У той час, калі шмат якія вучоныя ў XIX стагодзьдзі, як рускія, так і польскія, ня прызнавалі беларускай мовы, адносіліся да яе пагардліва, лічылі яе дыялектам рускай або польскай мовы (успомнім, што нават Я. Карскі называў яе „наречием"), Федароўскі на аснове глыбокага і дэталёвага вывучэньня заходнябеларускіх гаворак сьцьвердзіў, што беларуская мова самастойная старажытная мова вялікай групы усходніх славян, якая мае свае ўнутраныя законы разьвіцьця, свае індывідуальныя рысы і асаблівасьці ў фанэтыцы і сінтаксічнай структуры".** Саламевіч цытуе вымоўнае з гэтага гледзішча выказваньне Федароўскага, што зафіксаванае ў вадным ягоным рукапісе: **„Ці беларускі народ прыйдзе калінебудзь да самасьвядомасьці? Як Паляк я сардэчна гэтага яму жадаю".**

Кажны, хто цікавіцца беларускай народнай творчасьцяй, ведаў, што Міхал Федароўскі палажыў вялікія заслугі для беларускай фальклярыстыкі. Але Янка Саламевіч першы давёў і навукова абгрунтаваў, што ў шмат якіх прынцыпова важных пытаньнях у галіне беларускай фальклярыстыкі Міхал Федароўскі быў першапраходцам і першаадкрывальнікам і да сяньня застаецца няпераўзыйдзеным. У сваім выдатным дасьледваньні Саламевіч адкрыў перад чытачом зусім новага Федароўскага, куды большага й больш заслужанага для беларускай навукі, чымся мы яго ўяўлялі раней. У гэтым галоўная каштоўнасьць дасьледваньня Янкі Саламевіча „Міхал Федароўскі".

**Раман Шарупіч**

# АЙЦЕЦ МІХАСЬ УРБАНОВІЧ

**(30. X. 1890 — 4. VIII. 1973)**

4 жніўня гэтага году памёр на 83 годзе жыцьця адзін з прадстаўнікоў старой беларускай эміграцыі ў Амэрыцы слаўнай памяці каталіцкі сьвятар Міхась Урбановіч. Паходзіў з Астрыны ў Горадзеншчыне, выхаваўся ў Варшаве пад апекай свайго дзядзькі Каратынскага, сваяка ведамага беларускага пісьменьніка XIX ст. Вінцуся Каратынскага. Мабыць увесь род Каратынскіх быў стойкім за родную Беларусь, бо малады Міхась Урбановіч у Варшаве не апалячыўся, а замацаваў у сваім сьветапоглядзе любоў да сваёй Бацькаўшчыны і да слаўнай мінуўшчыны. Быў гэта чалавек высока адукаваны дзеля вялікай над сабой працы, каб якнайбольш заслужыцца для свайго народу. Скончыў сярэднія й вышэйшыя школы ў Польшчы, у Аўстрыі; духоўную сэмінарыю ў Варшаве (1915) і там быў вікарым, школьным прафэктам, вайсковым прадстаўніком ад войск Пілсудзкага перад Камісіяй Прэзыдэнта Гувэра ў Варшаве (1918) ды капэлянам Беларуска-Літоўскай Дывізіі ў арміі Пілсудзкага.

Пасьля Рыскай угоды ды існаваньня т. зв. СЯРЭДНЯЙ ЛІТВЫ быў у Вільні. Тут ён зьвярнуў на сябе ўвагу Віленскага япіскапа Юрага Матулевіча, які яго, як адукаванага й здольнага сьвятара, заахвоціў уступіць у арганізацыю МАРЫЯНАЎ, да якой сам належаў, ды працаваць дзеля хрысьціянскага адзінства, асабліва між трыма суседнімі народамі: Беларусамі, Палякамі і Жамойцамі, між якімі ўжо тады тварыліся ідэалягічныя разнабоі ды барацьба насупраць хрысьціянскай справядлівасьці. Тады то айцец Урбановіч уявіў сабе, што культ сьвятога Казімера Ягайлавіча, нашага сьвятога XV ст., найбольш здолее пагасіць нарастаючыя ваяўнічыя нацыяналізмы паміж народамі. **А** паколькі Жамойцы ў ЗША **былі** найбольш засьлепленыя нацыянальна, дык бп. Матулевіч пасьля далучэньня СЯРЭДНЯЙ ЛІТВЫ да Польшчы ў 1922 г., калі Палякі сталі крыва глядзець на а. Урбановіча, як на працўніка далучэньня Віленшчыны да Польшчы, выслаў яго ў ЗША на місію сярод Жмудзінаў.

Тут у Амэрыцы ня лёгкая была місія айцу Урбановічу. Перш за ўсё ён ня ведаў жамойцкай мовы. Польскую й беларускую мову ён ведаў з маладых гадоў. А тут трэба хутка навучыцца мовы іншага суседа. І ў Амэрыцы малады энтузіяст на працягу двух гадоў аваладаў мову нашых паўночных суседаў ды ўсё жыцьцё прысьвяціў справе зьбліжэньня трох пасвараных народаў. Ці ён дасягнуў мэту? Гэта ня мэта аднаго пакаленьня! Ён, думаем, паслабіў напружэньне. Сяньня мы вычуваем, што напружаньне паміж намі і Палякамі ды Жамойдамі вельмі паслабла. Асабліва на амэрыканскай прасторы.

А. Урбановіч ня дзейнічаў магічнай палачкай. Ён, сутыкнуўшыся з маладзейшай беларускай эміграцыяй пасьля 2 вайны, добра зразумеў перамены на бацькаўшчыне. Ён наведаў Польшчу ды Беласточчыну двойчы. І даў вывад нэгатыўны. Польскі нацыяналізм не пагас, але ўзбуйнеў пры падтрымцы каталіцкага польскага касьцёлу пад провадам кард. Вышынскага й польскіх камуністычных патрыётаў.

Айцец Урбановіч пробаваў таксама собскага пяра ў палеміцы за справядлівае разуменьне Беларусі. Ён апублікаваў цэлы рад артыкулаў у польскай прэсе аб Беларусі. Пісаў артыкулы ў амэрыканскія энцыкляпэдыі ды іншыя выдавецтвы з мэтай узьняць і бараніць беларускую справу.

Вось чаму мы яго хочам ацаніць справядліва, прадстаўляючы ў кароткім нарысе ягоныя нацыянальныя заслугі. Дай Божа нам падобных дзеячоў!

**Вацлаў Пануцэвіч**

# ТАМ, ДЗЕ ПЛЫВЕ ГАЛЬШАНКА

Каб смычком-бы тым
Камень зачапіць,
Дык пайшоў-бы дым:
Камень не сьцярпіць!

**Францішак Багушэвіч**

Паміж Вільняй і Маладэчынам шырака разьлеглася маляўнічае Ашмянскае ўзвышша, нібы забараняючы прыгажуні Вяльлі амінуць Вільню з Койнам ды нацянькі далучыцца да бацькі Нёману. Амаль пасярэдзіне падзяляюць яго глыбокія даліны рэк Ашмянкі й Гальшанкі — першая, падмываючы стромкія берагі, бяжыць на поўнач да Вяльлі, другая сьпяшаецца на паўдня да Бярэзіны Нёманскае. І здаўных-даўна ляжыць на Гальшанцы мястэчка, а раней горад Гальшаны.

Дарэчы, хоць на некаторых сучасных картах і сям-там у кніжках, а навет у паважнай „Беларускай архітэктуры" М. Кацара, іхні назоў зьначаны на Альшаны, але паходзіць ён зусім не ад альшыны, а ад імя гістарычнага, собскага. Памыляецца таксама і В. Жучкевіч у сваёй даволі плыткай „Тапаніміцы Беларусі", калі, не знайшоўшы заправдны корань паходжаньня назову Гальшанаў, абмяжоўваецца тэхнічнай спасылкай на фармант — АНЫ, як на быццам дастатковы для тлумачэньня некаторых беларускіх геаграфічных назоваў балцкага паходжаньня.

Між тым вядомая „Хроніка Быхаўца", як і „Летапісец вялікіх князёў Літоўскіх", маючы на ўвазе князя Альгімунта Гольшу, які даводзіўся сынам Раману, унукам Гілігіну і малодшым братам Нарымунту, пад 1280 г. прыгадваюць:

„А чацьверты брат Гольшыс перайшоў раку Вяльлю і знайшоў гару прыгожую, і пабудаваў на ёй горад, і назваў сваім імем Гальшаны".

Вось менавіта ад яго й распачаўся слынны княжацкі род, зь якога паходзіць і Зоська Гальшанская — чацьвертая жонка Ягайлы ды матка Ягайлёнаў і Ульляна Гальшанская — другая жонка Вітаўта, што заснавала ў Троках Юр'еўскую царкву. Паколькі стрыечныя браты Ягайла й Вітаўт бяз малага аднагодкі, дык вельмі магчыма, што Зоська з Ульлянай родныя сёстры.

Зь іншых князёў Гальшанскіх найбольш вядомы Іван Альгімунтавіч, які зьяўляўся намесьнікам князя Вітаўта ў Кіяве ды ачольваў пасольствы Літвы ў Ноўгарад і Маскву. Заслугоўвае таксама пашаны ягоны брат Сымон Альгімунтавіч, намесьнік Вітаўта ў Ноўгарадзе. З братам Вітаўта Жыгімунтам Кейстутавічам ён у 1432 г. у Ашмяне паланіў разбуральніка дзяржавы князя Сьвідрыгайлу, але той уцёк і ў сваю чаргу пазьней зьняволіў князя Сымона і загадаў у 1435 г. утапіць яго ў Віцебску ў Дзьвіне, сьпінуўшы із Замкавае гары. За тое ганьбай пакрыў сябе Іван Юр'евіч Гальшанскі. Як удзельнік змовы супраць вялікага князя Казімера, ён меў намер прылучыць усходнюю частку Літвы аж па Бярэзіну Дняпроўскую да Масквы, за што ў 1481 г. і пакараны сьмерцю.

Не засталося цяпер у Гальшанах і сьледу ад таго старадаўнага касьцёлу ля замку, дзе ў 1422 г. пашлюбаваліся Ягайла із Зоськай. Не зьбярогся таксама й складзены з дубовых бярвеньняў з патаемнымі сходамі ў вежах першы Гальшанскі замак. Ён знаходзіўся ў 2-х кілямэтрах ад цяперашніх Гальшанаў ля шляху, што вядзе праз Барунскую вуліцу да Крэва, на высокім узгорку, вядомым тады, як Чырвоная гара, а цяпер, як Гарадзішча, ахутанае шматлікімі цікавымі паданьнямі. Паблізу ад мястэчка, каля вёскі Каяцініты, захавалася й другое з адзнакамі колішніх валаў і роваў гарадзішча, аб якім існуе гістарычная прымаўка:

„Пагляджу я з гары, як б'юцца зь Літвой Татары".

А па дарозе да мястэчка Трабы, паблізу ўрочышча Чортава Карчма, ляжаў падарваны бальшавікамі й асабліва шанаваны ў народзе вялікі камень з адбіткам на ім чалавечае ступні.

Калі ў 16-м стагодзьдзі род Гальшанскіх вымер, іхнія Гальшаны перайшлі да Сапегаў. У першай палове наступнага стагодзьдзя Ашмянскі стараста, а пазьней падканцлер Літвы Павал Сапега будуе тут на новым месцы каменны замак, ад якога цяпер ацалела прыкладна трэйцяя частка. Барочны па свайму стылю, квадратовы па пляну, з магутнымі шэра-чырвонымі мурамі даўжынёю каля 100 мэтраў кажны, а вышынёй ад 10-ці да 12-ці, ён меў па кутох чатыры вежы із сьпічастымі шатровымі дахамі з флюгерамі й шпіцамі. Па кампазыцыі Гальшанскі замак нагадвае Мірскі, пабудаваны на мяжы 16-17 стагодзьдзяў магнатамі Ільлінічамі, але калі той зь цягам часу паступова ператварыўся із замкава-вайсковага ансамблю ў замкава-палацавы, дык узьніклы на сто год пазьней ад яго Гальшанскі хутчэй нагадвае ўжо ня замак, а ўмацаваны абаронны палац.

Паказальна, што ягоныя вымураваныя з каменю й цэглы паўтараметравыя ўшыркі муры аднача сна зьяўляюцца й вонкавымі сьценамі двухпавярховага палацу, які мае залі ўпрыгожаныя прывабнай лепкай, патаемныя вінтавыя сходы, нішы й каміны, а ўнізе сутарэньні з высокімі арчастымі скляпеньнямі, зь бясконцымі лябірынтамі пераходаў, закутаў, казаматаў. І ў замак праз таўшчыню муру й шырыню сумежнае зь ім залі палацу вядзе 15-цімэтравы тунэль, выкладзены панізе нячэсанымі валунамі. Праезд праз яго некалі закрываўся двума варотамі, якія падпіралі дубовыя завалы — праёмы пад іх відаць у сьценах і цяпер.

У 1618 г. Павал Сапега будуе велічны трохнэфны барочны касьцёл, які ня мае вежаў, але тым ня менш відаць яго навокал на 5 кілямэтраў, хоць і стаіць ён не на самым высокім месцы ў Гальшанах. Заслугоўвае ў ім увагі цудоўнае пэрспэктыўнае пано — яно напісана на плоскай сьцяне аўтарнае часткі ягонага інтэр'еру, але стварае ілюзорны эфэкт паўкруглае апсіды. Ладне чым Гальшанскі касьцёл нагадвае касьцёлы Міхала ў Вільні й Тройцы ў Друі, што зразумела, бо фундатарамі ўсіх іх зьяўляюцца Сапегі, але найбольш падобныя да яго бязьвежныя касьцёлы ў Барунах і Шклове. А да касьцёлу прылягаюць старадаўнія камяніцы францішканскага кляштару.

Аднак у вагульную прыгажосьць інтэр'еру Гальшанскага касьцёлу трапіў і нясмак. У ягоным пабочным нэфе ёсьць створаны ў сярэдзіне 18 стагодзьдзя зграбны ў сваіх паасобных элементах помнік над магілай Паўла Сапегі і ягоных жанок. Ён сам у поўным рыцарскім уборы, зь мячом у руцэ й шаломам на галаве, ляжыць на каменным пастамэнце, а побач зь ім прылеглі тры матроны ў чэпчыках і з кантычкамі ў руках. І мастаку пэўне — або забракла адчуваньня кампазыцыі помніку, або ён вымушаны быў выканаць загад спадкаемцаў тут пахаваных.

Калі, як сьцьвярджае дакумант яшчэ 1538 г., праз самыя Гальшаны праходзіў ажыўлены гандлёвы шлях зь Пінску да Вільні і тут адбываліся вялікія кірмашы, што сьветчыла ўвогуле аб іхнім дабрабыце, дык маёнтак Гальшаны, разам із замкам, паступова заняпадаў. Ён перайшоў ад Сапегаў да Жабаў, потым да Карсакоў, а пасьля гэраічнага паўстаньня 1863 г. супраць Расейскае імпэрыі іх, як урадавую ўзнагароду, апанаваў на правох пераможцы расейскі генэрал Гарбанёў і пазьней таксама Расеяц Ягмін.

Апошні ў пачатку нашага стагодзьдзя з чатырох вежаў замку бяз усякае пільнае патрэбы разбурыў тры, а капліцу з цудоўным росьпісам, што была ўбудаваная ў палацавы корпус, скарыстаў пад дрывотнік. За тыя-ж часы хтосьці відаць

# ЧЫРВОНААРМЕЙСКІ АНСАМБЛЬ ПАЧУЎ ДАГЭТУЛЬ НЯЧУТАЕ

Кажны год у Тароньце ад палавы жнівеня да першага панядзелку верасьня адбываецца Канадыйская Нацыянальная Выстаўка, што прыцягвае звыш трох мілёнаў наведвальнікаў. Выстаўка мае індустрыяльна-камэрцыйны характар. Летась упяршыню вялізны будынак нанялі чырвоныя Кітайцы. Мусіць каб не астацца далёка ззаду, сёлета, таксама ўпяршыню, цэлы будынак наняла чырвоная Масква.

Перад будынкам гэным наведвальнікі маглі пабачыць шэсьць трактараў „Беларусь" і адзін рухавік „Беларусь", які цягне прычэпкі й самазвалы. Абслуга савецкага павілёну інфармавала зацікаўленых, што ў Тароньце, на прадмесьці Этобікоўк яны маюць гандлёвы пункт гэтых трактароў і што „бізнэс" ідзе добра, бо ад чырвеня сёлета прадалі ўжо 280 трактараў. Хаця прадаюць беларускія трактары, але між сарака чалавек абслугі й гэнай гандлёвай агенцыі ня было ніводнага Беларуса.

На выстаўцы ёсьць гэтак званы „грэндстэнд", стадыён для спорту й тэатральна-мастацкіх паказаў. На працягу трох тыдняў трываньня выстаўкі гэтта выступаюць пераважна вялікія мастацкія ансамблі. Асаблівай прынадай сёлета быў чырвонаармейскі ансамбль, у ліку каля 200 чалавек, запрошаны з Масквы. Ён меў выступаць чатыры вечары.

Пятая гадавіна савецкай інвазыі Чэхаславаччыны прыпадала 21-га жнівеня, якраз на другі дзень выступленьня маскоўскага ансамблю. Факт самога запрашэньня чырвонаармейцаў у няслаўную пятую гадавіну гвалту Чырвонай Арміяй „братняй Чэхаславацкай Дэмакратычнай Рэспублікі" выклікаў вялікае абурэньне між канадыйскага грамадзтва. Некаторыя адно і абмежаваліся гэтым абурэньнем, а гэтак званыя „этнічныя" грамады, пераважна Балтыйцы, Беларусы, Украінцы (сябры Канадыйскай Рады Свабоды), Чэхі й Вугорцы пачалі рыхтаваць акцыю пратэсту. Канадыйская дзяржаўная паліцыя, РСМП, загадзя папярэджвала гэтыя групы, каб яны ўстрымаліся ад усякіх няпрыязных актаў супраць савецкай групы й павілёну на выстаўцы. Бязумоўна, у Канадзе сам народ гаспадар, таму прынялі да ведама гэта папярэджаньне й праводзілі падрыхтоўкі да пратэстаў і дэманстрацыяў.

У панядзелак 20-га жнівеня вечарам быў зарганізаваны караван аўтаў, што з антысавецкімі лёзунгамі колькі разоў аб'яжджаў вуліцамі навокал выстаўкі. Пры брамах выстаўкі групы людзей раздавалі наведвальнікам спэцыяльна падрыхтаваную афішку-зварот да Канадыйцаў. Афішка выясьняла памылковую акцыю ўраду, што дазволіў маскоўцам арганізаваць павілён і чырвонаармейскаму ансамблю забаўляць наіўных людзей на сцэне. Прыгадвалася інвазыя Чэхаславаччыны.

У аўторак вечарам 21-га жнівеня другі караван аўтамашынаў, яшчэ большы чым папярэдняга вечару, сабраўся на Дафэрын Пляза ды зноў-жа з анты-савецкімі плякатамі накіраваўся да Антарыйскага Парляманту ў Квінс Парку. Гэтта прамаўлялі паслы, міністар Брунэл і прадстаўнікі паняволеных народаў. Пасьля збору, гэта грамада паехала ў Парк Міншэнтага, дзе зложылі вянкі на помнік вугорскім змагаром за свабоду.

Група Канадыйскай Рады Свабоды (КРС) дзейнічала ў іншым пляне. На помач ёй прыйшла добра ведамая із сваёй антыкамуністычнай актыўнасьці група, што выдае часапіс „Каўнтдаўн". Акцыяй гэтай супольнай грамады кіраваў старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады сп-р К. Акула.

У даволі ціхім раёне гораду, на рагу вуліц Чэрч і Чарлс, у мадэрным вялікім гатэлі „Таўн Ін" пасялілася абслуга савецкага павілёну выстаўкі. Сюды-ж у пятніцу 17-га жнівеня зараз пасьля поўначы (значыцца ў сыботу рана) пяць перапоўненых аўтабусаў прывезьлі зь лётнішча Малтон цэлы савецкі чырвонаармейскі ансамбль. Перад гатэлем сустрэла іх група дэманстрантаў з плякатамі ў ангельскай і расейскай мовах.

Калі ўдзельнікі маскоўскай групы пачалі вылазіць, таронцкая паліцыя адціснула дэманстрантаў на бакі тратуару й цэлая плошча перад гатэлем неўзабаве напоўнілася прыбылымі. Уваходзілі яны ў гатэль надта павольна, заняло гэта больш як сорак хвілін часу. І гэту надзвычайную нагоду выкарысталі дэманстранты. Яны не пачалі абклікаць прыбылых дрэннымі мянушкамі, крычаць ці кідацца на іх. Вось пачуўся моцны, зраўнаважаны, чысты й цьвёрды голас: „Здравствуйте, красноармейцы. Приветствуем вас на канадийской земле. Во время вашего побыта у нас чувствуйтесь как у себе дома потому что мы, Канадыйцы — ваши друзья. Мы лиш выступаем против вашего ненавистного красно-фашистского режима так как, мы верим, и большинство вас наверно не питает никакой любви к этому режиму. Повторяю: мы, Канадийцы, — ваши друзья, а ваш антинародный фашистский красный режим — наш общий враг!"

Спадар Акула прамаўляў паволі і кажнае яго слова было добра чуваць усім прыбылым чырвонаармейцам. Спачатку яны пераглядаліся міжсобку зь няўцямнасьцю. Але неўзабаве большыня прыязна ўсьміхалася, уважна слухала й вачмі міргала ў бок прамоўцы.

„Будучы ў нашай краіне, — прадаўжаў сп-р Акула парасейску, — вы, пэўна-ж, будзеце прыглядацца як жыве наш народ. І адразу спасьцеражэце, што жыве ён шмат лепш чымся грамадзяне Савецкага Саюзу. Пачуеце, магчыма, і пра нашы страйкі, каторых цяпер ёсьць некалькі. І вось спытаеце сябе: чаму-ж людзі, добра жывучы, яшчэ страйкуюць? Адказ знайсьці няцяжка: хто добра жыве, той хоча яшчэ лепш. А спытайце сябе, чаму ў вашай краіне, дзе ёсьць вялікія недастаткі ўсяго, дзе работнікі зарабляюць пераважна адну чацьвертую таго, што нашы, чаму ў вас няма страйкаў? Ці-ж усе 250 мілёнаў людзей у вашай краіне добра забясьпечаныя й дагледжаныя, як кажуць вам вашыя камуністычныя начальнікі? Вядома, што не.

Мы, у вольнай краіне, можам страйкаваць. Вы ня можаце. У вас гэта права забраў чырвона-фашыстаўскі, антынародны ўрад.

Мы маем вольнасьць слова. Мы можам выдаваць газэты, часапісы, агітаваць супраць свайго ўраду на радыё, тэлевізіі ,на вуліцы, на публічных зборах. А ці могуць гэта рабіць грамадзяне вашай краіны?

Мы маем вольнасьць руху, можам ехаць куды хочам за межы нашай краіны. А ці могуць вашы грамадзяне?

Мы можам свабодна маліцца кажны ў сваёй царкве. А ці могуць вашы грамадзяне? Мы чулі, што ваша канстытуцыя забясьпечвае права рэлігійнай свабоды. Але гэта адно на паперы. Мы добра ведаем, таксама як і вы самі ведаеце, што ваш антынародны й антырэлігійны рэжым зруйнаваў сьвятыні, зьліквідаваў бальшыню сьвятароў і цяпер падтрымлівае бязбожніка, а праследуе вернікаў.

Мы маем права пасяляцца дзе хочам і выбіраць працы, да якіх мы здольны. У нашых гарадох няма закону прыпіскі, так як у вас. У нас нідзе не бачыце чэргаў ля крамаў. А чаму ваш рэжым, пасьля больш чым 50-гадовага панаваньня яшчэ ня зможа забясьпечыць сваіх грамадзян харчамі, адзеньнем і памешканьнямі?

У нас на сельскай гаспадарцы працуе менш чым дзесяць працэнтаў насельніцтва, а ў вас больш чым шэсьцьдзесят працэнтаў. Нашы сельскагаспадарчыя сілы ня толькі забясьпечваюць сваіх грамадзян, але яшчэ й вам хлеб прадаюць. Вы можа чулі пра тое, што вашы сельскагаспадарчыя брыгады сеюць на калгасных палях, а жнуць у Канадзе й Задзіночаных Штатах?"

Таронцкая паліцыя, відаць, спадзявалася, што, як ці раз раней, дэманстранты будуць дзейнічаць зьневажальнымі крыкамі, можа навет спрабуюць фізычную сілу. Але гэтта сталася зусім нешта неспадзяванае. Бязумоўна, ніхто зь іх пэўне-ж не разумеў пра што гаварыў сп. Акула. Яны адно бачылі прыязныя ўсьмешкі і міргаўне вачмі ўдзельнікаў чырвонаармейскага ансамблю. Гэта ім надзвычайна падабалася і паліцыянты самі ўважна прыглядаліся да людзей і пасяброўску ўсьміхаліся. У натоўпе чырвонаармейцаў было колькі „пацукоў" (КГБ), каторых відаць было як на далані. У вялізнай групе пераважна маладых векам, гэтыя паджылыя „пацукі", сьведамыя сваёй бясьсільнасьці ў такіх абставінах, кідалі вачмі „грозные молнии" ў бок Акулы й дэманстрантаў. Каб маглі, дык мусіць гэтых людзей жыўцом зьелі-б. У гэтым часе былі між прыбылымі і такія, што ледзь-ледзь стрымлівалі голасны сьмех. Але, відаць было як на далані, крадком кідалі позіркі на „пацукоў" і далей падморгвалі дэманстрантам.

Пра гэтых „пацукоў" гаварыў і беларускі эміґрант:

„Вы, магчыма, першы раз апынуліся ў такой сытуацыі, што да вас шчыра й адкрыта прамаўляе чалавек з вольнага сьвету. Вашы гэтак званыя ангелы-сторажы, ці як вы іх называеце — „пацукі", бесяцца ад злосьці, бо ня могуць спыніць вольнага слова, слова праўды, каторага ваш чырвона фашыстоўскі ўрад і гэтыя самыя „пацукі" баяцца, як пошасьці, як агня. Зірніце на іх, можаце іх цяпер на пальцах палічыць. Бачыце, як бесяцца ў бясьсільнасьці. Для іх вольнае слова праўды гэта тое, што для чорта крыж".

У гэты час некаторыя савецкія жыхары „Таўн Ін" ужо павылазілі на балконы й слухалі Акулаву прамову зьверху. А некаторыя „пацукі" з КГБ падышлі да канадыйскіх тайнякоў у цывільным і настойліва нешта тлумачылі. Канадыйцы ціскалі плячыма. І ніхто з паліцыйных уладаў не загадаў сп-ру Акулу спыніць сваю прамову. Прамоўца-ж спыняўся на колькі часінаў, а пасьля пачынаў „з новай бочкі". Ён гаварыў і пра цяперашніх пяць мілёнаў з савецкае „апазыцыі" ў канцлягерах, і прыгадаў інвазыю Чэхаславаччыны, і добра апісаў гэтак званую бэрлінскую сьцяну.

„Вы бачыце перад сабой групу дэманстрантаў. Ведайце, што дэманструем ня супраць вас асабіста, — бальшыня з вас пэўне-ж таксама ня любіць вашага антынароднага фашыстоўскага рэжыму, так як і мы яго ня любім, — мы дэманструем супраць таго, што вы рэпрэзэнтуеце. Ёсьць між нас людзі з балтыйскіх краінаў, Беларусі, Украіны, ёсьць і Чэхі, і Вугорцы, ёсьць навет і Расейцы. Можна сказаць, што апроч карэнных Канадыйцаў, тут роджаных, у нашым ліку ёсьць прадстаўнікі ўсіх паняволеных народаў з савецкай каляніяльнай імпэрыі. Мы ведаем, што ўсе гэтыя народы змагаюцца за сваю свабоду супраць ненавіснага чырвона-фашыстоўскага маскоўскага рэжыму і сваіх рэспубліканскіх марыянэтак. Верце, што агульная народная ненавісьць у недалёкай будучыні прынясе пагібель фашыстоўскім тыранам у Крамлі. На руінах савецкае каляніяльнае імпэрыі паўстануць вольныя дзяржавы, дзе запраўдныя гаспадары, самі народы будуць дбаць пра свой дабрабыт. Прашу вас, завязіце ад нас прывітаньне ўсім вашым грамадзянам, усім паняволеным народам і скажыце ім, што мы, Канадыйцы, разумеем іх цяжкое становішча й што наш вольны канадыйскі народ стаіць побач тых, каторыя змагаюцца за волю. Жадаем ім посьпеху і скорага зьдзяйсьненьня іхных мэтаў".

Напрыканцы сп-р Акула пераключыўся на беларускую мову.

„Магчыма, што сярод вас ёсьць і Беларусы, таму хачу й пабеларуску колькі слоў сказаць. У Канадзе ёсьць вялікая колькасьць Беларусаў. Чаму яны выбралі жыцьцё на чужыне? А таму, што чужынцы прынесьлі чужыну на іхную бацькаўшчыну. Завязіце, калі ласка, прывітаньне ад нас сінявокай, паняволенай Беларусі. Мы ведаем, што народ наш моцны, непераможны й трывалкі і, як казаў наш вялікі нацыянальны прарок Янка Купала, яшчэ прыйдзе той час, калі вольная Беларусь „зойме свой пачэсны пасад між народамі". Скажыце нашым суродзічам дома, што мы заўсёды памятаем пра іх, молімся за іх, стараемся, дзе гэта магчыма, падтрымліваць іх маральна, бо ведаем, што церпіць ён у страшнай няволі і што пануе цяпер на зямлі Каліноўскага й Купалы вялікая цемра. Але прыйдзе вясна . . ."

Сп-р Акула каротка каінфармаваў сваіх слухачоў пра жыцьцё й вольнасьці, якімі карыстаюцца Беларусы ў Канадзе й наагул у вольным сьвеце.

Гэта нязвычайная прамова трывала больш як паўгадзіны.

Ужо пасьля таго, як „чырвоная армія" ўвайшла ў гатэль, сп-р С., аранжыр чырвонаармейскага канцэрту на Канадыйскай Нацыянальнай Выстаўцы, (сам Канадзец) накінуўся на сп. П. Фрома, рэдактара часапісу „Каўнтдаўн". Стрыжнём ягонага незадаваленьня было тое, што калі некаторыя Канадыйцы намагаюцца будаваць „масты дружбы" з чырвоным гігантам, дык малая група „нясумленных ігнарантаў" дазваляе сабе бэсьціць і зьневажаць запрошаных гасьцей перад дзьвярмі шырака-адчыненай гасьцінцы.

19-га жнівеня ў нядзелю, а гадзіне чверць па адзінаццатай, на працягу пятнаццаці хвілін старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады быў гасьцём на тэлевізыйнай праграме „Можна ўсім", канал 79-ы. Гэта ёсьць вельмі папулярная праграма, вельмі любіць яе моладзь. Сп-р Акула гаварыў пра патрэбу байкоту праграмы чырвонаармейскага ансамблю на Канадыйскай Нацыянальнай Выстаўцы. Гаспадаром праграмы быў сп. Вільям Рональд, ведамы канадыйскі інтэлектуаліст-маляр.

Як і шматлікіх прысутных у аўдыторыі, між іх шмат з г. зв. этнічных групаў, сп. Рональда цікавіла пытаньне, чаму й навошта трэба было-б байкатаваць групу, што прыехала нас забаўляць і паказаць сваю культуру. Зноў-жа сп-р Акула вытлумачыў, што Канадыйцы маюць цяпер даскаральную нагоду, каб выказаць сваю падтрымку паняволеным народам, байкатуючы групу людзей, высланую сюды варварскім, антынародным рэжымам. Госьць зноў падчыркнуў, што ані ён асабіста, ані яго суродзічы, ані іншыя Канадыйцы з краін, паняволеных Масквою, ня чуюць ніякае варожасьці да пэрсаналу гэтай групы. Але яна мае сваё заданьне: паказаць чалавечы твар антычалавечага рэжыму, паказаць сваю культуру, праз мастацтва адчыніць доступ да сэрцаў наіўных людзей, каторыя навет не падазраюць жахлівай запраўднасьці ў краіне, адкуль гэтыя людзі прыехалі.

Сп-р Акула зазначыў, што Канадыйцы павінны сароміцца за акцыю людзей, якія запрасілі чырвонаармейскі ансамбль якраз у пэрыяд сумнай пятай гадавіны інвазыі Чэхаславаччыны. Гэтым яны наплявалі на памяць змагароў за свабоду, на твар паняволеных народаў. Праграма мела добры посьпех.

Цікава захавалася таронцкая прэса. Газэта „Таронта Сан", рэдактарам якое ёсьць сп. П. Уортынгтон ,які быў на працягу колькі гадоў карэспандэнтам ад „Таронта Тэлеграм" у Маскве, і якога адтуль выгналі за „недахоп аб'ектыўнасьці", зьмясьціў і перадавіцу, прысьвечаную ганебнай гадавіне інвазыі Чэхаславаччыны, і лісты супраць чырвонаармейскага ансамблю. Ані раніншняя „Глоб энд Мэйл", ані найбольшая „Таронта Стар" ня прысьвяцілі пратэстам супраць чырвоных ці ганебнай гадавіне належнай увагі. Відаць, што „софыстыкэйтэд піпл" з гэтых газэтаў таксама мрояць пра „масты дружбы", якія, на іх думку, найлепш будаваць культурнай абменай. Нам ведама, што людзі пісалі даўгія лісты ў газэты, дзе пратэставалі супраць чырвонаармейскай групы, але ніводзін з гэтых лістоў ня быў зьмешчаны.

Агулам-жа, пра дэманстрацыю й тую нязвычайную прамову перад таронцкім гатэлем, дый праграму на тэлевізіі, былі надзвычайна прыхільныя водгукі. Знойдзены быў новы спосаб доступу да грамадзян савецкай каляніяльнай імпэрыі, перад якім навет ворганы савецкае бясьпекі аказаліся бясьсільнымі.

К.

# АМЭРЫКАНСКІЯ БЕЛАРУСЫ Й ВОТЭРГЭЙТ

Здаецца не памылюся, калі скажу, што ў „Беларусе", газэце перадусім Беларусаў ЗША, бадай-што не ўспаміналася пра справу Вотэргэйт. Не ўспаміналася, трэба думаць, таму, што амаль уся штодзённая амэрыканская прэса, часапісы, радыё й тэлебачаньне прысьвячалі гэтай справе вельмі шмат месца й часу. Не ўспаміналася таксама й таму, што для беларускага зацікаўленьня ў гэтай справе ня было й няма нічога асаблівага.

Аднак паколькі ў ЗША жыве вялікая колькасьць Амэрыканцаў-Беларусаў, яны, відавочна, і паасобку, і як грамада, маюць усё-ж свае пагляды на справу Вотэргэйт. І гэтыя іхныя пагляды неабходна адзначыць, бо ўсё-ж справа Вотэргэйт у сяньняшнім амэрыканскім жыцьці ў некаторай меры падзея значная.

Каб даведацца пра пагляды часткі беларуска-амэрыканскага грамадзтва, часткі, на мой пагляд, рэпрэзэнтатыўнай, былі апытаныя пэрсанальна й тэлефанічна звыш сотні Амэрыканцаў - Беларусаў, паводля партыйнае прыналежнасьці, рэспубліканцаў, дэмакратаў і незалежных.

На пытаньне: „Які Ваш пагляд на справу Вотэргэйт", атрыманыя гэткія вынікі: каля 90% апытаных уважаюць справу Вотэргэйт дробнай, што не заслугоўвае ўвагі й рэклямы, а сяньняшняе насьвятленьне гэтага выпадку й увязваньне ў яго Прэзыдэнта ЗША уважаюць за шкоднае; 8% выказаліся так, што калі было зроблена крымінальнае злачынства, дык справа гэтая мусіла-б апыніцца ў судзе; каля 2% апытаных уважаюць, што справа Вотэргэйт мусіла быць разгледжаная гэтак, як яна й разглядаецца.

Пагляды першае, найбольшае катэгорыі апытаных можна згрупаваць у наступны спосаб:

— Вотэргэйт — гэта ўдала замаскаваная правакацыя дэмакратаў;

— Вотэргэйт — гэта помста лібэральных колаў Прэзыдэнту Ніксану за выбарныя перамогі 1968 і 1972 гадоў і за ягонае крытычнае стаўленьне да прэсы;

— Вотэргэйт — гэта помста Жыдоў над Прэзыдэнтам Ніксанам за тое, што ён акружыў сябе дарадчікамі нямецкага паходжаньня і не назначыў Жыда ў Вярхоўны Суд;

— Вотэргэйт — гэта чародная й вельмі хітра інсьпіраваная камуністымі „афэра" на шляху, каб „зьнішчыць" Амэрыку;

— Вотэргэйт — гэта інсцэніроўка, каб адвесьці ўвагу ад запраўдных болек і праблемаў сяньняшняе Амэрыкі;

— Вотэргэйт — гэта пробны балён, каб спрабаваць, ці ўдасца падважыць пасаду Прэзыдэнта ЗША.

Відавочна, некаторыя пагляды й матывацыі не арыгінальныя, а набытыя пад уплывам прэсы й тэлебачаньня. Некаторыя-ж з паглядаў цалком новыя, хоць магчыма й ня зусім правільныя.

А цяпер, так як сваімі паглядамі на справу Вотэргэйт я ўлучаю й сябе самога ў катэгорыю 90% апытаных, я хацеў-бы затрымацца на колькіх аспэктах гэтае справы. Перш-наперш не на сутнасьці малога крымінальнага, аднак няважнага выпадку, а на тым, у што разгарнулася дасьледваньне гэтае справы. У ходзе гэтае тэлевізійнае кампаніі й смакаваньня гэтай справай прэсы стваераецца абраз, што дзяржаўна-палітычная Амэрыка — гэта цёмная джунгля. Тут пануе ў дзяржаўным маштабе і падслухоўваньне, і тэрор, і подкуп, і гвалт, і г. д. і г. п., наагул кажучы, створаецца ўражаньне, што гэта ня **гуманітарная** і справядлівая Амэрыка, а сыстэма жорсткага паліцыйнага апарату й самаўладзтва.

Асноўны-ж націск тут кладзецца як на ачарненьне самой сыстэмы, гэтак і на ачарненьне лідэраў і палітыкаў, асабліва на ачарненьне ФБАй і СіАйЭй. Выказваюцца пагляды аб няжыцьцёвасьці сыстэмы, карупцыі, няздольнасьці кіраваньня розных міністэрстваў. Паказальна, як у ходзе дасьледваньня камісія спачатку інсінувала прычасьць Прэзыдэнта да планаваньня ўзлому ў Вотэргэйт, потым, калі гэта стала відавочным абсурдам, сталі шукаць нечага, каб давесьці, што Прэзыдэнт памагаў справу ўкрываць, а наразшце дайшлі да таго, што зьвярнуліся ў суд, каб змусіць Прэзыдэнта аддаць ягоныя дакумэнты. Выглядае, што й на гэтым яшчэ не канец. Чырвонай ніткай праз увесь гэты працэс праходзіла імкненьне — ачарніць амэрыканскую ўрадавую сыстэму і „дакапацца" да самога Прэзыдэнта Амэрыкі.

Лягічна напрошваецца пытаньне: каму й нашто гэта патрэбна? Каму патрэбна аслабляць Амэрыку? Каму патрэбна стварыць закалоты, дэманстрацыі, збройныя налёты й г. д? І хоць адказ на гэтае пытаньне магчыма й будзе ўспрыняты із засьцярогай, — сяньня, маўляў, гэта старамодна, — аднак, як кажуць, адказ гэты ня ў брыво, а ў вока — гэта ўсё патрэбнае Маскве.

Ад таго часу, як у Крамлі пераканаліся, што ім, камуністым не пад сілу „угробить" Амэрыку ні эканамічна, ні вайскова, — а „угробить" Амэрыку ім неабходна **дзеля свайго самазахаваньня,** — тактыка была зьмененая. І вось аслабляньне Амэрыкі пачалося: дэманстрацыі, забастоўкі, ламаньне сямейных асноваў, стварэньне псыхозу нясталасьці, няпэўнасьці, недаверу й стварэньне ўражаньня чорнае будучыні — вось шляхі новае афэнзывы. Вотэргэйт — гэта адно із вязьмаў гэтага шляху.

В. Зубкоўскі

